


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

23 студзеня 2004 года

№ 4 (457)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

16 каналу ТэлетыДзень


**Навіны рэгіёну**


### «Пагарэў»

ВІЛЕЙКА. Пры атрыманні хабару ў 100 долараў ЗША работнікамі міліцыі фінансавых расследаванняў у Мінску быў затрыманы начальнік аднаго з камерцыйных аддзелаў завода "Зеніт". Так хабарнік вырашаў пытанні аб закупцы "Зенітам" сыравіны – сплаваў каляровых металаў – у адной з камерцыйных фірм.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Кефір з вітамінам

МЯДЗЕЛ. Новую прадукцыю пачалі выпускаць на Нарачанскім масласырзаводзе: малако і кефір «Зялёная даліна» з вітамінам С, дэсертны ёгурт і інш.

**Святлана ЦІШКО.**

### Дзень удзячнасці

СМАРГОНЬ. У школьным календары СШ №6 мінулая субота была адзначана як дзень удзячнасці. У школьным кафэ сабраліся бацькі, настаўнікі і вучні: ушаноўвалі хлопцаў і дзяўчат, якія праславілі школу сваімі навуковымі і спартыўнымі дасягненнямі.

**Ірына ЛУГІНА.**

### Падначалілі Мінску

ВАЛОЖЫН. Пяць гаспадарак стануць падраздзяленнямі мінскіх прадпрыемстваў. СВК "Валожынскі" аддалі "Белселу". "Лоск", СПК імя Чарняхоўскага, "Агра-Вішнеўскі", "Ракаў" – "Белселу", "Белпалівагазу", "Белтрубаправодбуду", "Росічу" і "Тувіі".

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

### Пажар у Дрывяніках

АСТРАВЕЦ. З-за няспраўнасцяў пячнога ацяплення вечарам 19 студзеня загарэўся жылы дом у вёсцы Дрывянікі. Пажарныя не здолелі з-за снегу пад'ехаць да бліжэйшага вадаёма. Давялося выкарыстоўваць пераносную матапомпу. Ніхто не пацярпеў.

**Святлана ЦІШКО.**

### Здаровы лад жыцця

АШМЯНЫ. У гарадской бібліятэцы завяршаецца тыдзень інфармацыі аб здаровым ладзе жыцця. У чытальнай зале выстаўлены артыкулы пра шкоду наркотыкаў, курэння, алкаголю і СНІД.

**Святлана ЦІШКО.**

### Універмаг адчыніўся

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду пасля рамонту адчыніўся універмаг на Цэнтральнай плошчы. Працуюць пакуль не ўсе гандлёвыя залы – рамонт працягваецца.

**Ірына РАБУШКА.**



# Лепшыя настаўнікі



**У фінальнай сцэне конкурсу на лепшага настаўніка Вілейшчыны настаўніку выяўленчага мастацтва гімназіі "Логас" Эдуарду Мацюшонку (у цэнтры) дапамагалі выступаць яго вучні. Дзеянне адбывалася на фоне работы настаўніка.**

Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

## На раённым конкурсе «Настаўнік года» ў Вілейцы перамаглі мужчыны

**ВІЛЕЙКА. 17 студзеня завяршыўся раённы конкурс "Настаўнік года-2004". Пераможцы – настаўнік выяўленчага мастацтва гімназіі № 1 "Логас" Эдуард Мацюшонак, настаўнік беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 2 Віктар Кажура, настаўнік фізічнай культуры Язненскай базавай школы Пётр Вайцюшонак – прымуць удзел у абласным конкурсе. Усяго спаборнічалі 11 настаўнікаў з гарадскіх і сельскіх школ.**

Вынікі цяперашняга раённага конкурсу нечаканыя з таго пункту гледжання, што ўсе тры першыя месцы занялі настаўнікі-мужчыны. Па-другое, усе пераможцы выступалі па-беларуску.

Поспех вызначаўся прафесійным майстэрствам канкурсантаў, духоўнасцю, актыўнасцю жыццёвай пазіцыі, рэальнасцю і эфектыўнасцю адукацыйных праграм, якія рэалізуюцца педагогамі, арыгінальнасцю і шчырасцю іх прадстаўлення, дапамогай з боку педагагічных калектываў.

Удзельнікі конкурсу мелі пяць выпрабаванняў. Яны мусілі паказаць педагагічнае майстэрства на трох уроках: адзін здымаўся на відэа, другі праводзіўся ў класе са знаёмым складам вучняў, трэці – з незнаёмымі вучнямі. Потым канкурсанты праходзілі псіхолага-педагагічнае тэставанне. Апошняе мерапрыемства – самапрадстаўленне і абарона адукацыйных праектаў – адбылося перад шырокай аўдыторыяй у актавай зале СШ № 5.

Па словах намесніка загадчыка раённага аддзела адукацыі Ларысы Петрыкевіч, гэткія конкурсы трэба праводзіць не радзей аднаго раза ў два гады. Гэта падзея актывізуе настаўнікаў, адміністрацыю, дзяцей, аб'ядноўвае іх, калі яны разам працуюць і дапамагаюць адзін аднаму ў дасягненні адзінай мэты. На яе думку, удзельнікаў наступных конкурсаў трэба гадаваць, каб на змену ўвесь час прыходзілі новыя таленавітыя настаўнікі.

Паспяховае выступленне настаўніка Язненскай школы Пятра Вайцюшонка чарговы раз паказала канкурэнтаздольнасць сельскіх школ у галіне педагагічнага майстэрства. Стэрэатып нізкага ўзроўню навучання калектывы сельскіх школ паступова ламаюць.

У падарунак пераможцы атрымалі адпаведна мікрахвалевую печ, дыван і пыласос, а астатнія ўдзельнікі – электрачайнікі.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

### Медаль вярнулі герою



Праз некалькі дзён пошукаў скрадзенага залатога медаля "Серп і Молат" яго вярнулі гаспадару міліцыянеры.

4-я старонка

### Таццянін дзень



Свае свята адсвяткуюць студэнты 25 студзеня. Успамінае Ігар Кіцікаў.

5-я старонка

### У пошуках прынца



Маладзечанскія дзяўчаты расказваюць, як шукалі па аб'явах сваю палавіну.

7-я старонка

■ НАВІНЫ

## Прайшлі адбор

**МАЛАДЗЕЧНА. Работы выкладчыкаў мастацкай школы Васіля Лазоўскага, Сяргея Жука, Таццяны Бараноўскай і Розы Панфілавай трапілі на рэспубліканскую выставу ў Мінску.**

У пачатку снежня яны прынялі ўдзел у абласным адборачным туры метадычных і творчых работ і прайшлі на "рэспубліку". Выстава пачне працаваць з сярэдзіны студзеня ў Мінску ў Палацы мастацтваў. Пераможцы атрымаюць прызы ад Міністэрства культуры.

Святлана ЦІШКО.

## Трыо едзе ў Гродна

**АСТРАВЕЦ. Адразу тры калектывы з Астравеччыны атрымалі права выступіць у фінальнай частцы V Усебеларускага фестывалю Нацыянальных культур, які пройдзе сёлета ў Гродне. Усе яны з вёскі Рымдзюны і будуць прадстаўляць Гервяцкую абшчыну літоўцаў.**

На адбыўшымся нядаўна абласным туры фестывалю фальклорная група "Жыльвіціс" (Вярба), танцавальны калектыў настаўнікаў Рымдзюнскай сярэдняй школы з літоўскай мовай навучання і інструментальны ансамбль літоўскага цэнтра культуры, адукацыі і інфармацыі былі лепшымі.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

## «Элегія» стала народнай

**ВІЛЕЙКА. Больш стала народных самадзейных калектываў на Вілейшчыне. У мінулую пятніцу на сцэне гарадскога Дома культуры права называцца народным адстойваў калектыў бардаўскай песні "Элегія", які стварыла і ўзначальвае дырэктар цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і падлеткаў Таццяна Захарыч.**

Са сцэны прагучалі розныя песні – свае, аўтарскія, і шырока вядомыя публіцы, з ранейшага рэпертуару і зусім новыя, у выкананні ўсяго калектыву і яго асобных салістаў Уладзіміра Балбачана, Уладзіміра Цануніна і Таццяны Захарыч. Спявала скрыпка ў руках Людмілы Шагавай. Дарэчы прыйшоўся і акампанемент гітары ў выкананні Уладзіміра Лапціка.

Марыя МІХАЙЛАВА.

■ АНОНС

## Прыедзе «Тройца»

**МАЛАДЗЕЧНА. У Палацы культуры 27 студзеня пройдзе канцэрт этнаграфічнага трыо «Тройца».**

Новая праграма «Сем сімвалаў» - вянок 7 год творчасці калектыву, якім кіруе дацэнт кафедры фальклору Дзяржаўнага універсітэта культуры Іван Кірчук.

Ларыса СЫСУН.

## Вечарына Л. Сысун

МАЛАДЗЕЧНА. У Палацы культуры 27 студзеня пройдзе вечарына, на якую сяброў збірае Ларыса Сысун, Маладзечанцы яе ведаюць не толькі як аддананага работніка культуры, але і самадзейную паэтку, аўтара газетных выступленняў.

Аддзел інфармацыі «РГ».

■ ВЫХАВАННЕ

# Музыка без выхадных

**МАЛАДЗЕЧНА. Без выхадных працуе гарадская дзіцячая музычная школа, якой сёлета споўнілася 55. Ад 8 гадзін раніцы да 8 вечара займаюцца тут 700 дзяўчынак і хлопчыкаў.**

Сваю гісторыю навучальная ўстанова пачала пісаць у 1949 годзе. За паўстагоддзя з яе сцен выйшлі тысячы выпускнікоў, многімі з якіх тут маюць падставу ганарыцца. "Нотную грамату" ў гэтай навучальнай установе спасцігаў народны артыст Беларусі, дырыжор Дзяржаўнага народнага аркестра Беларусі імя Жыновіча, рэктар Беларускай акадэміі музыкі **Міхась Казінец**, член Саюза кампазітараў Беларусі **Алег Елісеенкаў**, дырыжор Белдзяржфілармоніі **Аляксей Шут**, заслужаны работнік культуры БССР, дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага **Рыгор Сарока**. Дарэчы, 80 працэнтаў выкладчыкаў Маладзечанскай музычнай школы ў свой час таксама закончылі гэту ўстанову. З ліку яе выпускнікоў – і сённяшні дырэктар **Бэці Аўдзеенка**. Апантаны, таленавіты чалавек, якая двойчы атрымала спецыяльную прэмію гарвыканкама "Талент" у намінацыі "Дырэктар года".

Працуе музычная школа без выхадных. Каля 5-ці тысяч урокаў праводзяць за сямідзёнку выкладчыкі, выхаванцы якіх набываюць пачатковую музычную адукацыю па 23 спецыяльнасцях. Тут вучаць іграць на скрыпцы, кларнеце, саксафоне, домры, балалайцы, баяне, кантрабасе. Акрамя таго, вядзецца работа ў напрамках акадэмічнага, фальклорнага, эстраднага выканальніцтва. Пры школе створаны 22 харавыя і аркестравыя калектывы, шэсць з якіх маюць ганаровае званне "Узорны" і "Народны".



Выкладчыца класа цымбалаў Маладзечанскай дзіцячай музычнай школы Таццяна Гражэвіч. За раялем вучаніца Таццяна Шалянгоўская (клас выкладчыцы Ірыны Панкавец). Фота Ірыны РАБУШКІ.

Штогод яны гастралююць па гарадах Беларусі і Еўропы, прымаюць удзел у Міжнародных і рэспубліканскіх конкурсах. Запамінальным стаў мінулагодні 7-ы Міжнародны фестываль праваслаўных песнапенняў для ўзорнага хору "Жураўачка" пад кіраўніцтвам **Вольгі Бялько**, які заняў там першае месца. З "золатам" вярнуліся выхаванцы школы і з 7 Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Узорны ансамбль "Пацешкі", кіраўнік **Міхась Таўгень**, быў там зноў першым. З рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя Жыновіча прыехала з перамогай **Ганна Коршук** (выкладчык **Анатоль Хаменка**), а на 1-м рэспубліканскім конкурсе харавых калектываў у Светлагорску вызначаліся хор малодшых класаў (кіраўнік **Людміла Гладкая**, канцэртмайстар **Вольга Яблонская**) і ўзорны хор "Жураўачка" (кіраўнік **Вольга Бялько**, канцэртмайстар **Галіна Купрыеўская**). Усе яны зноў жа занялі першыя месцы.

Маладзечанская дзіцячая музычная школа – адна з вядучых пазашкольных устаноў у вобласці па выніках рэспубліканскіх конкурсаў метадычных і творчых работ выкладчыкаў. Плённым быў для яе і мінулы год. На абласным туры рэспубліканскага конкурсу вызначыліся ансамбль тэмбравых баянаў (кіраўнік **Аляксандр Пашкевіч**), ансамбль "Сувенір" (кіраўнік **Галіна Скурат**), трыо (скрыпка, скрыпка, фартэпіяна) у складзе **Аляксандра Баравіка**, **Валянціны Баравік** і **Алены Таўгень**. Не было роўных і дуэту баянаў, на якіх паказалі сваё майстэрства **Алег Рашкаў** і **Дзмітрый Раўба**, ансамблю "Харашуха", кіраўнікі **Вольга Бялько** і **Аляксандр Пашкевіч**, а таксама **Кацярыне Купрыеўскай** (вакал). Акрамя таго, на конкурс былі прадстаўлены пісьмовыя работы. Метадычныя распрацоўкі **Ганны Альфер** і **Алены Каралёвай**, асабістыя аранжыроўкі і сачыненні **Анатоля Хаменкі**. Усе вышэй названыя выкладчыкі прымуць удзел у заключным туры рэспубліканскага конкурсу метадычных і творчых работ выкладчыкаў музычных школ і школ мастацтваў, што пройдзе ў Маладзечне 18 сакавіка.

Марына СЛІЖ.

## Пабудуюць ЗАГС у Смаргоні

**ГРОДНА. Прадугледжаныя бюджэтам Гродзенскай вобласці асігнаванні на капітальнае будаўніцтва, якія складаюць каля 15 мільярдаў рублёў, будуць сканцэнтраваныя, у асноўным, на аб'ектах, што маюць высокую гатоўнасць. Пра гэта БелаПАН паведаміў намеснік старшыні аблвыканкама Аляксандр Радзевіч.**

Паводле яго слоў, у спісе прыярытэтаў — дзесяткі аб'ектаў сацыяльнай і культурнай сферы. Прадугледжваецца, напрыклад, увесці ў эксплуатацыю сярэднюю школу ў вёсцы Караліна Зэльвенскага раёна, блок абслугоўвання пры шматкватэрным жылым доме для ўдзельнікаў вайны і працы і будынак Кастрычніцкага РАУС у Гродне, а таксама ЗАГС у Смаргоні і амбулаторыю ў пасёлку Поразава (Свіслацкі раён), якія будуюцца шмат гадоў.

За кошт сродкаў рэзервовага фонду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь будуць пачаты рэстаўрацыйныя работы на гродзенскім участку Аўгустоўскага канала і аднаўленне Казлоўшчынскага дома-інтэрната ў Дзятлаўскім раёне, пацярпелага ад пажару.

**Паводле БелаПАН.**

## Адходы ў ход

**МІНСК. У 2004 годзе ў Мінску павінна пачацца будаўніцтва завода па перапрацоўцы камунальных адходаў у мікрараёне Шабаны — за мемарыяльным комплексам «Трасцянец».**

Як паведаміў 21 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінскім гарвыканкаме начальнік прадпрыемства «Упраўленне камунальнай гаспадаркі Мінгарвыканкама» **Мікалай Драмук**, летась свае прапановы на міжнародны інвестыцыйны тэндэр выставілі дзве нямецкія фірмы «Лургі» і «УПМ». На працягу месяца гарадскія ўлады павінны азнаёміцца з дадатковай інфармацыяй і назваць інвестара будаўніцтва. Прадпрыемства «Лургі» прапануе пабудаваць завод для спальвання смецця, фірма «УПМ» — завод, дзе смецце будзе перапрацоўвацца па тэхналогіі беролізу, г.зн. гнісці пры нізкіх тэмпературах з утварэннем газу і электраэнергіі.

**Паводле БелаПАН.**

■ ГАНДАЛЬ


Бойка ідзе гандаль у секцыі гаспадарчых тавараў на маладзечанскім міні-рынку «1000 дробязяў», што месціцца цяпер у будынку былога аднайменнага магазіна паблізу завода «Спадарожнік». Гандлюе Вольга Семеж (злева).
Фота Ірыны Рабушкі.

# «1000 дробязяў»

**МАЛАДЗЕЧНА. Непрыкметны раней магазін «1000 дробязяў», што паблізу завода «Спадарожнік», ператварыўся ў сапраўдную казку. Цяпер гэта міні-рынак, дзе і сапраўды можна купіць тысячу дробязяў, а мо, і больш.**

Тут прадаюць прадукты: ад курынага яечка і хлеба да мясных вырабаў. А таксама прамысловыя тавары: ад іголкі да мужчынскай камізэлькі. Дарэчы, чула, што гэта вяршыня швейнага майстэрства. На міні-рынку ёсць і салон вясельнага адзення.

Тавары завозяць раз на дзень, тыдзень або месяц. У залежнасці ад іх прызначэння, попыту. Трэці месяц у аддзеле галантарэі працуе **Вольга Салагуб**. Ёй вельмі падабаецца гэты занятак. Да таго ж калектыў добры, утульна, цёпла. Тавар разнастайны. Адных толькі гадзіннікаў яна вам прапануе ўсемагчымых геаметрычных формаў, вялікіх і малых. Іх добра купляюць у падарунак. А таксама ёсць парасоны для дзяцей і дарослых, якія неабходныя ў любую пару года. Вольга ўважліва ставіцца да пакупнікоў. Да слова, яна прадавец-прафесіянал. І лічыць, што сваю справу абрала правільна.

Насупраць яе гандлюе прыгожая дзяўчына з экзатычным імем **Юргіта Курлавічутэ**. Яна прадае польскія ручнікі, коўдры. Сярод іх ёсць чарадзейны фартух. Калі яго надзець, у тую ж хвіліну станеш стройнай і прывабнай.

За маладзёжнай модай сочыць прадавец **Алена Адамчук**, якая працуе для юнакоў і дзяўчат. Тут табе і сукенкі, і спадніцы па клена, вышэй яго і яшчэ вышэй. Штаны, блузкі. Алена ўжо вопытная ў сваёй справе і ведае, як зацікавіць пакупніка. Доказ гэтаму: у аддзеле маладзёжнага адзення прыбіраюцца і дарослыя. Тавар зроблены з турэцкага тэкстылю.

Гаспадарчымі тавармі "дырыжыруе" **Вольга Семеж**. Яна заўважыла, што для сябе людзі купляюць дробязі, а да падарунка ставяцца больш адказна і грунтоўна. Хочуць парадаваць чым-небудзь арыгінальным і нязвыклым. Асабліва карыстаюцца попытам дошкі для прасавання, чахлы на табурэткі.

**Таццяна Пінкевіч** – прадавец беларускай касметыкі – знаходзіць агульную мову з усімі пакупнікамі. Для мужчын, якія хочуць купіць касметыку жанчыне, яна рыхтуе гатовыя наборы. Маўляў, каб доўга не думалі муж ці сябар. Што яшчэ і беражэ іх час. Мужчынскай касметыкі таксама вялікі выбар. Ад гаваркіх пакупнікоў Таццяна даведалася, што яе тавар даспадобы жанчынам з Расіі, Украіны і Германіі.

На міні-рынку кожны знойдзе сабе падарунак для душы. Сваіх дзяцей таксама ўсцешыце гульнёй ці цацкай, якія прадае **Алена Арловіч**. Дзіцячыя забавы абнаўляюцца штотыдзень. Алена гаворыць, што цяпер лепш бяруць развіваючыя гульні на логіку, мысленне, якіх хопіць усім маленькім маладзечанцам.

Калі вы стоміцеся хадзіць па міні-рынку, прыкупіўшы прадукты ці кофту, завітайце ў цырульню, якая знаходзіцца на яго тэрыторыі. Дарэчы, летась яна заняла 1-е месца па інтэр'еры на гарадскім конкурсе майстэрства цырульнікаў.

Ды што я ўсё расказваю-расказваю, нібы тая Шахеразада, лепш завітайце ў казку самі.


На рынку была
Ірына РАБУШКА.

## Курсы валют НБ РБ

| | 15.1 руб. | 22.1 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2156,00 | 2155,00 |
| Еўра | 2732,51 | 2726,83 |
| Злоты | 576,70 | 577,05 |
| Літ | 791,31 | 789,83 |
| Расійскі рубель | 74,68 | 74,82 |

«Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2160/2170 | 2160/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 14.1 | 21.1 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13860 | 13870 |
| Сасіскі, 1 кг | 4700 | 4980 |
| Селядзец, 1 кг | 3000 | 3000 |
| Рыс, 0,9 кг | 900 | 950 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 570 | 500 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1050 | 1150 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 900 | 950 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 980 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 300 |
| Морква, 1 кг | 400 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 2950 | 3200 |
| Апельсіны, 1 кг | 2100 | 2100 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1350 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 800 |
| Смятана, 1 л | 2100 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5100 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2400 | 2500 |
| Бульба, 1 вядро | 2300 | 2400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1100 |







■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Медаль «Серп і Молат» вярнулі Марыі Касяк

**ВІЛЕЙКА. Герой Сацыялістычнай Працы Марыя Касяк зноў змагла прышпіліць зорку героя на лацкан пінжака. Украдзеную 2 студзеня ўзнагароду вярнулі жанчыне супрацоўнікі Вілейскага РАУС.**

Наша газета ў №2 за 9 студзеня ўжо расказвала пра здарэнне ў вёсцы Заазер'е. Там невядомы мужчына ўкраў медаль «Серп і Молат» у 86-гадовай пенсіянеркі Марыі Касяк. Акурат у дзень яе нараджэння, прадставіўшыся журналістам, папрасіў паказаць узнагароду, затым фотаздымкі часоў маладосці і, пакуль бабуля шукала іх у другім пакоі, знік у невядомым напрамку.

Супрацоўнікі Вілейскага РАУС здолелі выйсці на яго след. Зорка Героя Сацыялістычнай Працы, дарэчы, ужо трэці раз запар, вернута ўладальніцы. І ў той жа час супрацоўнікі міліцыі просяць жыхароў раёна быць больш пільнымі. "Прыкрываючыся" статусамі журналістаў, работнікаў ваенкаматаў, аддзелаў сацыяльнага забеспячэння райвыканкамаў, па вёсках качуе нямала прайдзісветаў, што хочуць абагаціцца за чужы кошт. Украдзеныя ўзнагароды яны часцей за ўсё прадаюць, а грошы пускаюць на свае патрэбы. І не кожнаму можа так пашанцаваць, як Марыі Касяк.

Марына СЛІЖ.

■ ЗЛАЧЫНСТВА РАСКРЫТА

# Ноч на міліцэйскай варце

**ВІЛЕЙКА. Трывожнымі былі мінулыя выхадныя дні для супрацоўнікаў раённага аддзела ўнутраных спраў (РАУС). Хаця, ці бываюць яны, спакойныя дзяжурствы, ў людзей, якіх стаяць на абароне ўласнай і дзяржаўнай маёмасці абавязвае сама прафесія.**

### Каб сумкі красці было непавадна

Рабочы дзень у Наталлі (назавём жанчыну так) закончыўся апоўначы. Мераючы шлях ад магазіна, дзе працуе, да дома, яна смела крочыла вілейскімі кварталамі. У невялікім горадзе, дзе амаль што ўсе людзі ведаюць адзін аднаго ў твар, ёй не было каго баяцца.

Занятая сваімі думкамі дайшла да "Зеніта". І ледзь не нос у нос сутыкнулася з хлопцамі, якія, бы прывіды, выйшлі з-за заводскай сцяны. Адзін з іх ударыў у твар і загадаў аддаць сумку. Наталля была не з дзесятка баязлівых. Але што можа зрабіць жанчына супраць трох мужчын. Накінуліся, павалілі на зямлю, збілі, выхапілі з рук здабычу і... збеглі.

Выратаваннем стаў легкавы аўтамабіль, што выехаў на вуліцу. Жанчына выбегла на праезную частку, перагарадзіла яму дарогу. Выслухаўшы, вадзіцель прапанаваў тэлефон, па якім Наталля дазванілася ў міліцыю.







**Старшына міліцыі Раман Млечка (злева) і старшы сяржант Аляксандр Нядзведскі патрулююць Вілейку. Пры адным з начных патруляванняў яны затрымалі зладзееў, якія абакралі буфет.** Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

"Затрымаў патруль зладзеяў, — расказвае намеснік начальніка Вілейскага РАУС Андрэй Дударчык, — на працягу гадзіны. А ўсё дзякуючы нераўнадушнаму вадзіцелю і назіральнасці пацярпелай, якая сумела заўважыць, куды пабеглі яе крыўдзіцелі, як выглядалі, у што былі апрануты. Па гэтых прыкметах і знайшлі старшына міліцыі **Раман Млечка** і старшы сяржант **Аляксандр Нядзведскі** трох маладых людзей. Усе яны паўналетнія. Два – ураджэнцы Вілейкі, адзін з рабаўнікоў родам з Петразаводска. Украдзенае вернута пацярпелай".

### За чужы кошт

За чужы кошт вырашылі пашыкаваць маладыя віляйчане. І нічога лепшага не прыдумалі, як абакрасці буфет у паліклініцы, гаспадаром якога з'яўляецца прыватны прадпрымальнік.

Туды яны праніклі, разбіўшы шкло, у ноч на 18 студзеня. Каса буфета аказалася амаль што пустой, толькі дзве тысячы рублёў пакінула пасля працоўнай змены ў ёй прадавец. Таму стаўку зрабілі на прадукты.

Закуска крадзеная была, самагонкі купілі за тыя дзве тысячы. Грэліся, весяліліся, тусаваліся з мясцовай моладдзю на дыскатэцы. Але для поўнага шчасця чагосьці ўсё ж не хапала. Вырашылі яшчэ раз схадзіць у буфет і "раскруціць" багатага прадпрымальніка. Праз тую ж дзірку залезлі ўнутр гандлёвай кропкі. Зноў, бы з галоднага краю, сталі хапаць прадукты харчавання, "прыхватызавалі" мікрахвалевую печ. Усё панесці не мелі сілы, таму тое, што не забралі, папсавалі.

Аб тым, што разбіта шкло ў памяшканні буфета, паведаміў у раённы аддзел унутраных спраў вартаўнік паліклінікі. Супрацоўнікі РАУС адразу ж выехалі на месца здарэння і ў выніку пошукавых мерапрыемстваў устанавілі асобы зладзеяў.

"Усяго гэтага, — каментуе сітуацыю намеснік начальніка Вілейскага РАУС Андрэй Дударчык, — магло б і не быць, калі б прадпрымальнік прыслухаўся да парад міліцыі і ўстанавіў ахоўную сігналізацыю альбо рашоткі на вокнах Адгаворваецца тым, што працуе на арэндуемых плошчах, а зламыснікі тым часам не губляюць дарма часу".

Дарэчы, усе яны з ліку сваіх, мясцовых. Адзін з трох затрыманых — непаўналетні.

### Музычны квартэт

Пакуль гаспадары былі ў гасцях, дзверы ў іх кватэру зламалі невядомыя і ўкралі магнітафон. З заявай муж і жонка К. звярнуліся ў міліцыю вечарам. А раніцай наступнага дня рэч ім ужо была вернута. Вілейскія супрацоўнікі міліцыі затрымалі двух дзяўчат, якія прызналіся ў здзейсненым і назвалі прозвішчы двух сваіх судзельнікаў мужчынскага полу.

Марына СЛІЖ.

■ ПРАФІЛАКТЫКА

## Фота самагоншчыка апублікуюць у насценгазеце

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінулы год быў складаным для Чысцінскага аддзялення міліцыі. У параўнанні з 2002 годам колькасць злачынстваў узрасла на 30%. Са 160 зарэгістраваных злачынстваў 132 – крадзяжы. 75 – раскрыта. Чысцінскае аддзяленне абслугоўвае тэрыторыю трох сельсаветаў: Чысцінскага, Красненскага і Граніцкага.**

13 супрацоўнікаў гэтага аддзялення, сярод якіх 7 афіцэраў, і складаюць яго штат. Гэта 2 оперупаўнаважаныя крымінальнага вышуку, 4 участковыя інспектары, а таксама міліцыянеры патрульна-паставой службы.

Пачатак мінулага года быў адзначаны серыйнымі крадзяжамі з аўтамабіляў. Са студзеня па сакавік было ўзбуджана 6 крымінальных спраў па крадзяжах аўтамагнітол. І хаця "аўтамабільная хваля" хутка спала, колькасць крадзяжоў працягвала расці. У тым ліку з магазінаў.

У кастрычніку спрабавалі абакрасці магазін у Гарняках, але зладзеям штосьці перашкодзіла. Былі таксама спробы абакрасці крамы ў Гранічах і Сычавічах. Гэта раней судзімы ўраджэнец Пінска быў у вандроўцы па нашым рэгіёне. Урэшце яго затрымалі на Вілейшчыне.

Найбольшая колькасць крадзяжоў – крадзяжы асабістай маёмасці. 27 мая нехта абакраў кватэру ў Чысці. Сын гаспадароў прыводзіў да сябе ў госці знаёмага, які прыкмеціў, дзе хлопчык пакідае ключ. Калі дома нікога не было – знаёмец пранік у кватэру і абакраў гаспадароў.

Маладая жыхарка Краснага 3 снежня запрасіла да сябе на дзень нараджэння зусім незнаёмых людзей, якія таксама пасля праніклі ў кватэру і абакралі гаспадыню. Такіх прыкладаў – мноства.

Начальнік Чысцінскага аддзялення міліцыі **Міхаіл Барэйка** спадзяецца, што сёлета мы станем больш уважлівымі, а ў адносінах да незнаёмых ці малазнаёмых людзей – і ўвогуле асцярожнымі. Крадзяжы, як від злачыннасці, амаль не знікаюць. Таму трэба не быць вельмі даверлівымі, каб не трапіць на вудачку зламыснікаў.

Міхаіл Барэйка лічыць, што адной з галоўных прычын, якая спрыяе росту колькасці крадзяжоў і іншых злачынстваў, з'яўляецца самагонаварэнне і продаж самагонкі. За мінулы год за гэта да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута 80 чалавек. Але штрафамі людзей не напалохаеш. Таму ў міліцыі плануюць фатаграфаваць усіх вытворцаў і прадаўцоў самагону за іх заняткам, а затым публікаваць іх у насценгазеце акцыянернага таварыства "Забудова".

Людміла ПЯТРОВІЧ, Чысць.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

### Злыдзень бомж

**МАЛАДЗЕЧНА. У інтэрнат па вуліцы Ф.Скарыны, 17 зайшоў бомж і пабіў чалавека.**

Бойка завязалася ноччу ў вітальні аднаго з пакояў. Гэта маласямейны інтэрнат, і тут няма прапускнога рэжыму. 36-гадовы бомж свабодна зайшоў у памяшканне. Пацярпелы атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Узбуджана крымінальная справа.

### Абабралі цыганкі

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні жыхарку Радашкавічаў абабралі цыганкі.**

Каля 3-х гадзін дня гаспадыня сама ўпусціла ў хату няпрошаных гасцей – трох жанчын. Урэшце, яны выкралі 500 долараў і 500 тысяч беларускіх рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

### Не заўважыў

**МАЛАДЗЕЧНА. На аўтадарозе Мінск-Нарач вадзіцель аўтамашыны "Аўдзі-100" наехаў на чалавека, які ляжаў на дарозе.**

Шафёр паведаміў аб гэтым у міліцыю сам. Высветлілася, што ляжаў – п'яны. З-за дрэннага надвор'я яго не было бачна з аўтамабіля.

### Крадзеж у офісе

**МАЛАДЗЕЧНА. 14 студзеня хтосьці выкраў грошы з кабінета офіса прадпрыемства "Маладзечналес".**

Дзверы былі адчыненыя. У памяшканні нікога не было. Злодзей забраў грошы з сумачкі. Узбуджана крымінальная справа.

### Малалетнія зладзеі

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю ў адну з кватэр па вуліцы Міру, 6 зайшлі тры незнаёмцы і гвалтам завалодалі маёмасцю гаспадыні.**

Нарад патрульна-паставой службы міліцыі, які прыехаў на месца здарэння, высветліў, што незнаёмцы – дзве непаўналетнія дзяўчыны і хлопец – гасцявалі ў суседняй кватэры. Але вяселля не хапіла... Зладзеі адабралі ў пацярпелай куртку і залаты бранзалет.

Хлопца і адну дзяўчыну арыштавалі. Другая засталася на свабодзе – яна цяжарная. Узбуджана крымінальная справа.

### Абрабавалі жанчыну

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 студзеня каля 9 гадзін вечара на вуліцы Шаранговіча двое невядомых ударылі жанчыну, якая вярталася з работы дамоў, і адабралі ў яе сумачку.**

Рабаўнікі затрыманы. Імі аказаліся 21- і 22-гадовыя жыхары раёна, раней судзімыя. Узбуджана крымінальная справа.

### Пагасцявала...

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні зладзеі выкралі грошы і залатыя вырабы ў адной з кватэр па вуліцы Ларына, 1.**

Гаспадыня на тыдзень з'ехала з дома да сваякоў. У гэты час муж прывёў кампанію. Мяркуецца, што нехта з кампаніі – злодзей. Узбуджана крымінальная справа.

Па зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

### Схапілі за руку

**МЯДЗЕЛ. На мінулым тыдні дзве жанчыны праніклі ў дом у райцэнтры. Пажывіцца ім не ўдалося: нечакана дахаты вярнуліся гаспадары. Убачыўшы, што ў доме чужыя, звярнуліся ў міліцыю.**

Падчас затрымання жанчыны спрабавалі выкінуць вырабы з золата, якія яны ўкралі раней у іншым доме ў Мядзеле. Злачынкамі аказаліся дзве цыганкі з Маладзечна.

Аддзел інфармацыі «РГ».

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Таццянін дзень

**Прайшло 10 гадоў, як я ўжо не студэнт. Але кожны год 25 студзеня мы з сябрамі святкуем Таццянін дзень – Дзень студэнта. Бо толькі ў студэнцкія гады ты напалову дзіця і ўжо напалову дарослы. У цябе ёсць як дзіцячыя, так і дарослыя радасці. Але яшчэ няма дарослых цяжкасцей. А колькі цікавых гісторый здараецца са студэнтамі. На сённяшнім адкрытым уроку я проста раскажу пра адну з іх.**

Наш выкладчык заалогіі беспазваночных (паважаны спецыяліст сярод сваіх калег і студэнтаў) прывёз з Паўднёвай Амерыкі гіганцкага багамола і некалькі тараканаў. Яны жылі ў тэрарыумах на кафедры.

Багамол быў памерам з невялікага пацука і карміўся выключна жывымі мухамі. Аднойчы на занятках я глядзеў у акно на вясновае сонейка. Як раптам пачуў, што выкладчык прапануе мне, раз я ўсё адно не слухаю, схадзіць на вуліцу за мухамі. Я моўчкі ўзяў сачок і слоік і пайшоў у невялічкі сквер, што з тыльнага боку будынка універсітэта. Праз нейкія паўгадзіны слоік быў амаль поўны. У тым сэнсе, што мухі былі яшчэ жывыя, але калі спрабавалі лятаць, дык чапляліся крыльцамі адна за адну.



На лекцыі. Фота ByMedio.Net.

У гэты час да мяне падышоў дзядуля з ордэнскімі планкамі на грудзях. Павітаўся і спытаў, што гэта я тут раблю.

—Бачыш, дзядуля, – кажу я, – наш выкладчык прывёз фашысцкага багамола (я меў на ўвазе, што многія фашысты пасля вайны хаваліся ў Паўднёвай Амерыцы), а я замест таго, каб вучыцца, лаўлю яму нашых беларускіх мух, за якіх вы кроў пралівалі.

Але зразумеўшы, што я трохі перабраў, вырашыў перавесці гутарку ў іншае рэчышча.

–Што, дзядуля, – на пенсіі?

–Не, яшчэ працую, – адказаў дзядуля, усміхаючыся.

–Дзе?– У мяне пачалі з'яўляцца нейкія здагадкі.

–Тут, ва універсітэце!

–Кім? – Здагадка ўзмацнілася.

–Рэктарам.

І я ўспомніў, як тры гады таму ён выступаў перад намі...

Потым рэктар папрасіў мяне, ці загадаў, паклікаць майго выкладчыка ў рэктарскі кабінет. З таго часу багамола перасталі карміць мухамі з вуліцы, іх разводзілі на кафедры ў слоіку. Але ці то не спадабаліся яму гэтыя мухі, ці ад журбы па радзіме багамол неўзабаве памёр.



Адкрыты ўрок вядзе
Ігар КІЦІКАЎ,
kitikoff@tut.by.

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

# Панядзелак — дзень не цяжкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Панядзелак – дзень цяжкі, кажуць у народзе. Кіяскёры Наталля Грыневіч і Дана Балыш, якія працуюць у шапіку №2, што месціцца на аўтобусным прыпынку ля друкарні, з гэтай ісцінай не пагаджаюцца. Кожны новы рабочы тыдзень яны пачынаюць у добрым настроі і стараюцца перадаць яго сваім пакупнікам.**

## Наталля

"Заходзьце, госцей будзеце", — даведаўшыся, што я з "Рэгіянальнай газеты", запрасіла, адчыніўшы дзверы шапіка, Наталля. І неяк проста, па-свойску, зазначыла: "Станеце сведкай гістарычнага моманту. Пяты дзень, як у кіёску ўстанавілі касавы апарат. Вось, вучымся працаваць па-сучаснаму".

Таварыская і гаваркая, яна расказала пра сваю сям'ю, якая пакуль што жыве ў інтэрнаце, дзевяцігадовую дачушку. Вядома ж, пагаварылі і пра работу кіяскёра, якая Наталлі падабаецца. Прыемна быць сярод людзей, несці ім з дапамогай газет свежыя навіны. Ды і іншага тавару ў шапіку хапае. Пакупнікі з ліку жанчын набываюць тут і кніжкі, і канцылярскія тавары, і мыйныя сродкі, а вось мужчыны звычайна газеты ды цыгарэты.



Кіяскёр кіёска №2 Наталля Грыневіч любіць сваю работу.



Дана Балыш працуе ў кіёску №2, што каля друкарні.

## Дана

Адпрацаваўшы 20 гадоў на заводзе "Спадарожнік", Дана Балыш вымушана была зрабіць выбар на карысць "Саюздруку". Адразу думала, будзе адзінока, за столькі гадоў прывыкла да вялікага калектыву. Аднак не далі сумаваць пакупнікі па той бок акенца, якіх ля кіёска заўсёды шмат. Многіх з іх яна ўжо ведае ў твар і заўсёды рада прапанаваць чалавеку любімыя часопіс альбо газету. А найвялікшая ўзнагарода – слова "дзякуй", якое гаворыць Дане амаль што кожны другі пакупнік. А ўсё таму, што ўмее прапанаваць тавар, не скупіцца на ўсмешку, добрае слова. "Не разумею людзей, — расказвае жанчына, — якія часам кажуць: на працы так час цягнецца. Для мяне ён ляціць імгненна. Здаецца, толькі-толькі змена пачалася, а напарніца ўжо стукае ў дзверы. Толькі дома разумею, што стамілася. Цэлы ж дзень на нагах".

**Марына СЛІЖ.**

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч–Клентак "Успаміны". Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http:// kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Вельмі захацелася мне апісаць сваё жыцьцё, можа таму, што было яно так багатае ў розныя добрыя й цяжкія перажываньні, а можа таму, што адчуваю свой блізкі канец. Можа хтось з маіх родных, а думаю пра Зосю, Кшыся, Толіка ці Анічку — Вэрыных і Франкавых дзяцей – пачытаюць калі-небудзь мае ўспаміны й выцягнуць для сябе навуку, як трэба жыць на сьвеце, як паступаць, каб быць шчасьлівым і мець шчасьлівую душу. Хай пабачаць, як многа слабы чалавек можа перанесьці, як асьцярожна трэба йсьці жыцьцёвым шляхам, як многа трэба працаваць і вучыцца, каб нешта ў жыцьці асягнуць.

## Дзяцінства

Прыйшла я на сьвет у 1914 г. у малым мястэчку Будславе, паложаным у даліне, акружанай лесам, палямі й балотам. Знаходзілася яно паміж старой Вілейкай і Глыбокім, на Віленшчыне. Пасярэдзіне Буды, так называлі нашае мястэчка старыя людзі, быў вялікі квадратны рынак, з вуглоў каторага ўва ўсе бакі разыходзіліся вуліцы. Па заходнім баку рынку ўзносіўся аграмадны касьцёл, у барокавым стылі, з цудоўным абразом Маці Божай. Раз у год, 2 ліпеня, адбываўся тут фэст і тады зьяжджалася шмат людзей у Буду. Адны ехалі, каб прадаць свае тавары, а іншыя сьпяшылі памаліцца ў касьцёле. Перад касьцёлам заводзілі на ўсе галасы розныя калекі. Праз цэлы тыдзень зьяжджаліся людзі на кірмаш гэты. Касьцёл быў перапоўнены. Многія ад парога да алтара паўзьлі на каленях. Расказвалі людзі пра розныя цуды, якіх дазнавалі пасьля гарачай, шчырай малітвы.

Дом наш знаходзіўся на Зосінскай вуліцы — так тады яна называлася — недалёка ад рынку. Перад домам стаялі векавыя бярозы й дуб. На падворку была студня, а за ёй садзік, у якім расло некалькі груш, яблынь і вішань. За домам былі пуня, хлявы, падпаветка й сьвіран. Дом быў невялікі з ганкам. Уваходзілася ў яго ад панадворка – адразу ў сені. Направа была кухня, а па левым баку пакой і спальня. У сенях стаяла драбіна, па якой уваходзілася на гару. Напроціў ганку знаходзілася сьпіжарня з пограбам на бульбу.

Сапраўднае наша прозьвішча — Кот-Катковіч. Так падпісваўся бацька й так было ў яго дакумэнтах. У дакумэнтах дзяцей, ня ведаю чаму, адпаў прыдомак „Кот". Мамы прозьвішча Мядзёлка. Продкі мамы мелі ў Мядзеле маёнтак, які змушаны былі прадаць і перасяліцца ў Будслаў.

Калі я нарадзілася, сям'я нашая складалася з бацькоў — маткі й бацькі, дзядоў і брата Пётруся – два гады ад мяне старэйшага. Паявілася я на сьвет сусьветнай вайною. Праз наша мястэчка праходзіў фронт і мама мусіла з малымі дзяцьмі хавацца ў лесе або пад касьцёлам. Тату на вайну забралі. Пакажацца, бывала, дома на тыдзень ці два й зноў ад'яжджае.

Ведама, як бывае вайной. Часта не хапала нават хлеба, а цукру людзі й ня бачылі. Жыцьцё праходзіла ў нэрвах і страху. Тым часам сям'я нашая павялічылася. Паявілася сястра Вэра, а пасьля Ліначка. Апошняя была вельмі прыгожая, мудрая й пацешная. Таму можа й не жыла доўга. Хутка памерла. Адышлі ад нас назаўсёды бабуля й дзядуля. Зараз пасьля вайны нарадзілася Гэльця. Яна была таксама вельмі прыгожая, але нейкая іншая, як усе астатнія дзеці. Была вельмі музыкальная й ад малых гадоў засьпявала адразу кожную пачутую мэлёдыю. Мела прыгожы голас і калі падрасла, нідзе не вучачыся музыцы, патрапіла зайграць на кожным інструмэнце, які трапіў у яе рукі. Жыцьцё яе было сумнае й цяжкае. Прайшла сібірскі лагер, страціла здароў'е і ў канцы захварэла на псыхічную хваробу. Лячылася ў розных шпіталях і хутка памерла. Пахаваная ў Кашаліне. (Як я даведалася пасьля яе сьмерці, прычынай яе псыхічнай хваробы былі загранічныя лекі ад сэрца, якія яна ўсьцяж прымала).

У 1925 годзе прыйшоў на сьвет Франак — любімец бацькоў і нас усіх. Аб лёсе Франка напішу ніжэй. І так сямейка нашая складалася цяпер з бацькоў і пяцёра дзяцей. Мелі мы невялікі кавалак зямлі, малую гаспадарку: дзьве каровы, пару сьвіней, курэй. Спачатку й конь быў, але пасьля яго ня стала. Тата працаваў у каапэратыве – пазьней зарабляў муляркай, а мама гаспадарыла дома. Сама яна абшывала сябе й нас усіх. Любіла, каб дзеці апранутыя былі добра й прыгожа. Прала кудзелю й ткала на кроснах. Як-жа моцна любіла я сваю Маму! Хадзіла за ёй усьлед і на крок не адставала. Была яна жанчынай прыгожай, высокай і добрай, як анёл. Умела многа баек і расказвала нам іх прадучы кудзелю. Як прыемна было яе слухаць! Умела таксама многа песень і часта сьпявала. Тата таксама сьпяваў прыгожа, нават сола ў касьцёле.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

Працяг будзе.

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Фота з Канчанаў

**У сваіх пошуках даўніны не ўдавалася знайсці такі стары і адначасова цікавы здымак. Доўга я сядзеў з ім і разважаў пра гэтых людзей, якія ўжо сышлі з жыцця. Толькі цётка Люба ў свае 90 год жыве ў вёсцы Канчаны. Яна на здымку сядзіць маленькай дзяўчынкай на каленях бабулі.**



У цэнтры – гаспадар хаты Антон Харытон. Ён меў вялікую хату, і там разам з яго сям'ёй нейкі час жылі немцы – салдаты, удзельнікі першай сусветнай вайны. Пэўна, гэта былі немцы другой хвалі фронту на усход. Пры першай канчане ўцякалі ў Мінск, потым вярнуліся, бо ўжо не баяліся немцаў.

Уражвае беднасць гаспадароў гэтай хаты і іх басаногія, апранутыя ў кужаль, дзеці. Гэта не вынік вайны, а характарыстыка агульнага стану жыцця ў "Северо–западном крае" Российской империи". Перад аб'ектывам яны сядзелі ў святочным, лепшым адзенні.

Пры "другіх" немцах пасля 1941 года ў гэтай хаце прыпыніліся іншыя салдаты–немцы. Гэта фатаграфія традыцыйна вісела на сцяне, і адзін з іх пазнаў на ёй свайго бацьку. На фотаздымку ўсё спакойна, не адчуваецца вайна. У той час на франтах ваявалі рэгулярныя часці, і мірным жыхарам даставалася не надта многа. Гэта праз 27 год ваявалі падпольшчыкі, партызаны і салдаты супраціўлення. Усё стала больш жорсткім і крывавым.

Двое сыноў, якія падраслі, ваявалі з дзецьмі гэтых немцаў. Гэта Антон сядзіць пакуль на руках у немца, а Янку абдымае другі салдат. Абодва браты вярнуліся з вайны, на вялікае шчасце, жывымі.

**Аляксандр ХАРЫТОН, м.Краснае.**

■ НАША ПОШТА

# Вёска Уладыкі

**Уладыкі -- вёска, вядомая ў Беларусі і за яе межамі. Мы, краязнаўцы гуртка "Памяць" з Ільянскай СШ, не маглі не пабываць там.**

Дайсці і даехаць ва Уладыкі з Ілы можна рознымі шляхамі: або праз цагельню, якая ўжо не працуе, або праз Малявічы, па крыху лепшай гравійцы.

Уладыкі, сапраўды, – даволі вядомая вёска. Тут, паблізу яе ў 1863 годзе 28 траўня ў барацьбе за незалежнасць загінулі ваяры атрада Вінцэнта Козела-Паклеўскага. Аб гэтым напісана на таблічцы, прымацаванай да высокага драўлянага крыжа на магіле змагароў. 140 гадоў назад яны змагаліся і загінулі ў гэтай пушчы каля Уладык пад сцягамі нашага славутага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага.

Месца гэта асаблівае, святое. Ідуць і едуць сюды людзі і нізка кланяюцца: аддаюць даніну павагі нашым гераічным продкам – паўстанцам далёкага 1863 года, а таксама ахвярам Вялікай Айчыннай вайны. У гэтым лесе побач з героямі 1863 года пахаваныя знішчаныя немцамі ў часе блакады мясцовыя жыхары. "За нашу і вашу волю" аддалі свае жыцці пахаваныя тут людзі.

За гэта няхай вечнай будзе ім наша памяць ад маладзечанскіх скаўтаў і вучняў Сцешыцкай школы, якія ўстанавілі на магіле крыж.

Уладыкі цяпер налічваюць няшмат хат, і працаздольных тут няшмат – 14 чалавек. Многія хаты стаяць пустымі, на замку. Хто з'ехаў адсюль, бо як жыць без заробкаў, а другія памерлі.

**Юры Цітоў,** пенсіянер, узрадаваўся нам, калі даведаўся, што мы прыехалі з Ілы. Некалі ён жыў і працаваў у Ілы, быў сведкам, як скасавалі Ільянскі раён у 1957 годзе, як пачынаўся будавацца сельгастэхнікум. Вучоны аграном–пчаляр (ён закончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут), Юры Цітоў працаваў дырэктарам саўгаса "Вілія" ў Селішчы, а пасля загадваў у Мінску абласной пчалярскай канторай. Цяпер Юры Патапавіч на лета прыязджае з Мінска ва Уладыкі, займаецца тут уласным агародам, ды яшчэ пчоламі. Іх у яго зараз няшмат, і мёд яны носяць слаба – няма з чаго збіраць яго, мала кветак засталося ў наваколлі. Раней, успамінае ён, спецыяльна для пчол сеялі грэчку, белую канюшыну, іншыя меданосы, каб пчолы не галадалі без мёду, і каб не было патрэбы карміць іх цукровым сіропам. Цяпер такога, на жаль, няма. Чаму сённяшнія кіраўнікі так мала клапоцяцца аб пчолках? Такі добры пчальнік быў у Абадоўцах, ім загадваў Уладзімір Гулецкі. Ад людзей вельмі шмат залежыць, як ні кажы. Бедныя тыя пчолы, якія адляталі ўсё лета, ды так і засталіся на зімку без сродкаў да існавання.

— Да сустрэчы, вясной прыязджайце да нас, кажа Юры Патапавіч. На развітанне дае нам нумар адзінага ў вёсцы тэлефона і шкадуе, што мы не зайшлі яшчэ да Зенчыхі, старэйшай у вёсцы жыхаркі, якой ужо 85 год.

Шкадуем і мы, бо, пэўна ж, яна б прыгадала нам шмат чаго цікавага. Значыць, трэба наведаць Уладыкі яшчэ раз.

**Уладзімір КАЖАМЯКА, кіраўнік гісторыка-краязнаўчага гуртка «Памяць» Ільянскай сярэдняй школы.**

■ КАЛЯНДАР

**25 студзеня. 135 год таму, 25 студзеня 1869 года, ў фальварку Кавалькі Вілейскага павета, цяпер Мядзельшчына, нарадзіўся паэт, фалькларыст, рэвалюцыянер Адам Гіляры Гурыновіч.**



Адам Гіляры Гурыновіч.

Паходзіць са старадаўняга небагатага шляхецкага роду татарскага паходжання (герб "Праўдзіц"), вядомага з XV стагоддзя. Бацькі мелі некалькі дробных фальваркаў. Спачатку сям'я жыла ў Кавальках (Кавалях), потым пераехалі ў Крыстынопаль.

Па дадзеных 1867 года, у Крыстынопалі было 7 жыхароў, 352 дзесяціны (прыкладна 385 гектараў) зямлі. Крыстынопаль размяшчаўся непадалёку ад вёскі Золькі, дзе цяпер знаходзіцца ферма калгаса імя Кірава. Дарэчы было б перайменаваць гэты калгас у імя Адама Гурыновіча. Не выпадкова ён напісаў верш "Раз у Зольках, у дзярэўні", сюжэтна звязаны з роднымі мясцінамі і прысвечаны пажару, сведкам якога ён быў.

Памёр ў 1894 годзе, пахаваны на могілках вёскі Золькі на Вілейшчыне.

**26 студзеня. 90 гадоў таму, 26 студзеня 1914 года, нарадзіўся Валянцін Таўлай.** Беларускі паэт, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Сядзеў у турме ў Маладзечне. Яго імем названа вуліца ў Маладзечне.

**Публікацыя падрыхтавана з дапамогай загадчыцы аддзела занальнага дзяржархіва ў Маладзечне Наталлі ІВАНОВАЙ.**

■ СЛЕД НА ЗЯМЛІ

# Таямніцы зямлі нашай

**Ці ведае хто, наколькі багатая таямніцамі і скарбамі наша гісторыя? Гэта ж можна цэлыя раманы выдаваць, поўныя непаўторных сюжэтаў. Багатая на таямніцы і белыя плямы гісторыі і Маладзечаншчына.**

## Капліца Вітаўта

Вітаўтавымі або Ягайлавымі касцёламі таксама называліся адны з першых касцёлаў, пабудаваныя на Віленшчыне ў першай палове XV стагоддзя. Гартаючы старонкі метрыкі Вялікага княства Літоўскага, я патрапіў на дакумент, які датуецца 1528 годам:

"Вырак цівуна віленскага, пана Шімков, с панам падчашым, державцэм марковскім о прівлащанні сабе некаторых яловіц, вепров, баранов, каторые люді волості марковской і куренской давалі через рукі его на капліцу Віталтову".

Апошнія словы хочацца асабліва падкрэсліць. Так, менавіта капліца, а не касцёл. І гэта не памылка – слова «капліца» ў тэксце сустракаецца некалькі разоў. Дагэтуль я ніводнага разу не бачыў упаміну «капліцы Віталта». Але няма сумневу, што яна існавала, хоць і ўпамінаецца толькі ў адным дакуменце. Хутчэй за ўсё, калі грошы збіралі з маркаўскіх і куранецкіх людзей – яна мусіла стаяць на іхняй зямлі, недзе непадалёк. Але дзе – вось загадка!

## Татары

Вялікі князь Вітаўт запрашаў татараў на землі ВКЛ, для барацьбы з тэўтонскім ордэнам у бітве пад Грунвальдам, дзе нашы продкі атрымалі перамогу і ўславілі сваю зямлю. Пасля перамогі Вітаўт прапанаваў татарам застацца. Жылі яны на нашай зямлі мірна, паступова асімілюючыся з мясцовым насельніцтвам, як верныя грамадзяне сваёй новай Радзімы. Галоўнымі тэрыторыямі іх рассялення былі Наваградчына, Іўе і інш., але не трэба забывацца, што жылі яны і на тэрыторыі нашага рэгіёну, на Маладзечаншчыне: у вёсцы Турцы (сама назва сведчыць), Маладзечне, калі верыць Чаславу Янкоўскаму, – ад Беніцы і да Крэва, у Маркаве.

## Помнік рэфармацыі

Сёлета мы святкуем 450–годдзе Рэфармацыі на Беларусі. Маладзечанцы маюць для святкавання падставу. 7 траўня 1558 года мястэчка Лебедзева набыў Мікалай Радзівіл Чорны, кальвініст, магнат, вядомы сваімі ідэямі аб незалежнасці Вялікага княства Літоўскага і нелюбоўю да ўсяго польскага. Хутчэй за ўсё пад яго патранатам у мястэчку і збудавалі кальвінісцкі храм, які ажно да 1632 года не зведаў ніякага ўціску, нягледзячы на моцную плыню контррэфармацыі. Цікава, што ў пачатку XVIII стагоддзя ў Віленскай акрузе налічваліся толькі чатыры касцёлы «гэльвецкага веравызнання», а святароў яшчэ менш. У 1754 годзе збор прылічаць да жупранскага, службы будуць весціся не больш чатырох разоў на год. Не дапамагло і жаданне князя Геранім Радзівіла як-небудзь працягнуць жыццё збора пацверджаннем 15 чэрвеня 1756 года прывілея на фундуш маркграфіні Брандэнбургскай Люд.-Кар. Радзівілаўны за 20 чэрвеня 1687 года.

Відаць, усё ж такі яму было наканавана сысці разам з ім у гісторыю. І толькі ў людской памяці невялікі курган, што ў кірунку Лабачоўкі, у вярсце ад мястэчка, і называецца то «Царковішчам», то «Старым сялом». Засталося паданне пра колішнюю бажніцу, што сышла пад зямлю. Зараз і месца, дзе стаяў збор, не знойдзеш. У 1869 годзе з каменняў, узятых на «царковішчы», будавалі новую, Крыжаўзвіжанскую царкву. У наш час пры будаўніцтве дарогі знеслі ўсё астатняе, зраўняўшы з зямлёю апошні напамін.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ, s-z@tut.by.**

## Таварыства беларускай мовы шукае паратунку

**МІНСК. Кіраўніцтва «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) заклікала членаў аб'яднання і грамадзян краіны аказаць грамадскую падтрымку аб'яднанню з прычыны спробы ўлад пазбавіць ТБМ яго сталічнага офіса.**

Як паведаміў старшыня ТБМ Алег Трусаў, у офіс аб'яднання паступіў ліст ад кіраўніцтва ЖРЭА Партызанскага раёна горада Мінска, у якім гаворыцца, што «дагавор арэнды на нежылыя памяшканні па адрасу Румянцава, 13 заканчваецца 4 сакавіка 2004 года і не будзе працягнуты з-за неабходнасці дадатковага размяшчэння па дадзеным адрасе службаў ЖЭС-12».

Спроба высялення ТБМ з офіса з'яўляецца трэцяй за перыяд з 1998 года. «Цяперашняя ж спроба высялення ТБМ з яе штаб-кватэры ініцыіравана вышэйшым кіраўніцтвам краіны, і ўлады раёна з'яўляюцца толькі выканаўцамі», — сцвярджае А.Трусаў.

«Мы спадзяёмся дамовіцца з уладамі, – заявіў А.Трусаў. – У адваротным выпадку ТБМ працягне сваю дзейнасць у нелегальным статусе».

**Паводле БелаПАН.**

# Ёсць першы лыжны!

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую нядзелю, 18 студзеня, адбылося ўрачыстае адкрыццё лыжнага стадыёна ва ўрочышчы Бярозавы Гай, што непадалёк ад Маладзечна і вёскі Рагазы.**

Яго абуладкаванне пачалося паводле рашэння гарвыканкама ў лістападзе. Ініцыятыва зыходзіла ад старшыні гарвыканкама **Мікалая Чурсіна**, які сам займаўся лыжным спортам і мае спартыўны разрад. Усе работы гарадскія прадпрыемствы: «Маладзечанскія электрасеткі», лясгас, дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне — правялі як спонсарскую дапамогу, бясплатна.

Цяпер у Бярозавым Гаі высеклі некалькі дрэў, якія перашкаджалі трасе, усталявалі лінію ліхтароў, бо ўзімку рана цямнее, паставілі альтанкі, у якіх можна прысесці адпачыць. Два кругі лыжні, 3 і 5 кіламетраў, пасля снегападаў пракладвае снегаход «Буран». Па выхадных лыжнікі могуць бясплатна даехаць да стадыёна на аўтобусе. У дні масавых мерапрыемстваў будзе працаваць выязны буфет.



Цяпер Маладзечна зможа пацягацца за славу лыжнай сталіцы Беларусі з самімі Раўбічамі. У традыцыйных забегаў "Мінская лыжня" (на здымку) з'явіўся канкурэнт – лыжня маладзечанская.

Фота ByMedia.Net.

У самым хуткім часе, па словах намесніка старшыні гарвыканкама **Яфіма Ідэльчыка**, адчыніцца пракат лыжаў. У аматараў лыжнага спорту нарэшце з'явіцца рэальная магчымасць выйсці на лыжню.Да гэтага людзям, якія не маюць уласнага спартыўнага інвентару, даводзілася шукаць яго праз сяброў і знаёмых. У прадпрыемства «Адпачынак» (атэлье пракату) лыжаў даўно няма. «Я працую тут 20 гадоў, і пры мне іх ужо не было», — сказала ў інтэрв'ю «РГ» па тэлефоне галоўны бухгалтар гэтага прадпрыемства **Ірына Сысун**. Яна расказала, што раней у іх можна было ўзяць лыжы напракат, але спецыяльнага памяшкання для іх захоўвання не было, і яны перасохлі.

Яшчэ летась пракат лыжаў працаваў у парку культуры і адпачынку. Але сёлета, па словах дырэктара парку **Сцяпана Суботы**, чаравікі канчаткова развалілiся, ды і лыжам ужо 25 гадоў. Так што для аматараў лыжнага спорту адзіная надзея — новы пракат.

**Святлана ЦІШКО.**

## Мацнейшыя на маладзечанскай лыжні

**МАЛАДЗЕЧНА. У дзень адкрыцця лыжнага стадыёна прайшлі гарадскія спаборніцтвы. Пераможцы на дыстанцыях 3 км (дзяўчаты, жанчыны) і 5 км (хлопцы, мужчыны).**

Школьнікі: **Марына Мацюхіна** (гімназія №10), **Андрэй Астапенка** (гімназія №10).

Навучэнцы: **Святлана Ігнатовіч** (політэхнічны каледж), **Юрый Дылеўскі** (гандлёва-эканамічны каледж).Дарослыя (да 40 гадоў): **Таццяна Роўда, Аляксандр Каляга**.Карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" **Святлана Цішко** прыйшла да фінішу чацвертай.

Дарослыя (пасля 40 гадоў): **Алена Відзякіна, Міхаіл Капко.**

Самымі малодшымі ўдзельнікамі былі **Паліна Рабчанка** (гімназія №10) і **Сяргей Патаповіч** (гімназія №6), а самымі старэйшымі – **Ядвіга Дыдзік** і Павел Сталбавенка.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, МІЖСЕЗОННЕ

## Каманды першай лігі выйшлі з адпачынку

**ФК "Смаргонь" сабралася 22 студзеня. Аб планах падрыхтоўкі і змяненнях у складзе гаварыць пакуль рана.**

ФК "Маладзечна-2000" выйшаў з неаплачваемага адпачынку 19 студзеня. Тым часам на прагляд у "Днепр-Трансмаш" ездзіў **Альховік**, а ў БАТЭ – **Лявончык**.

Прадстаўнікі клуба не змаглі даказаць дысцыплінарнаму камітэту федэрацыі, што МТЗ-РІПА мусіць заплаціць нам за трансферы **Косака** і **Пазняка**, ну, а з віцябчанамі "Маладзечна-2000" павінен разлічыцца да 15 лютага. У адваротным выпадку з каманды будуць зняты 6 ачкоў у сёлетнім чэмпіянаце, а таксама яна не зможа дазаявіць навічкоў ажно да другога круга.

"Забудова" з Чысці Маладзечанскага раёна можа наогул не стартаваць сёлета ў сваёй другой лізе. Ва ўсялякім выпадку, цяпер ужо зразумела, што лёс каманды, як і год таму, будзе вырашацца перад самым стартам чэмпіянату.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БАСКЕТБОЛ

## Лепшая каманда ў вобласці

**ВАЛОЖЫН. Месяц таму жаночая зборная раёна ў чацвёрты раз запар выйграла чэмпіянат Мінскай вобласці. Усё пачалося ў 2000-м годзе, калі было ўтворана грамадскае аб'яднанне "Баскетбольны жаночы клуб" на базе школы-гімназіі.**

Там ёсць адзіная ў раёне зала памерам 24 м на 12 м. Праўда, гэтага ўсё роўна недастаткова, бо, напрыклад, у Маладзечне не адна і не дзве залы большых памераў. Ініцыятарамі стварэння клуба сталі самі спартсменкі, якія адчулі, што пры якаснай падрыхтоўцы змогуць дабіцца значных вынікаў. Напачатку на заняткі збіралася да дваццаці дзяўчат.

Трэніруе каманду увесь гэты час 39-гадовы загадчык аддзела ФКСіТ **Аляксандр Кавяза**, які пры арганізацыі клуба яшчэ працаваў завучам мясцовай ДЮСШ. Ён скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт фізічнай культуры. Дарэчы, спартсменкі, што ўтвараюць касцяк калектыву – асноўная пяцёрка складу, – таксама альбо скончылі гэтую ВНУ, альбо там цяпер завочна вучацца.

Родныя сёстры капітан **Ала Садоўская** (1973 г.н.) і **Іна Балабан** (1977 г.н.) працуюць трэнерамі ў ДЮСШ. **Інга Малашкевіч** (1967 г.н.) – вядучы спецыяліст аддзела ФКСіТ. **Марына Жывіцкая** (1967 г.н.) раней была метадыстам ДЮСШ, а цяпер часова не працуе. **Вольга Купцэвіч** (1977 г.н.) раней выкладала фізкультуру ў школе, а цяпер стала прыватным прадпрымальнікам.

Па свойму адметныя запасныя гульцы каманды. Ветэран **Марыя Тарнавіцкая** (1964 г.н.) скончыла сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках, жыве і працуе ў Івянцы. Юная **Кацярына Пятровіч** (1984 г.н.), якая літаральна вырасла побач з камандай, скончыла ПТВ-208, цяпер вельмі жадае паступіць у БДУФК. **Кацярына Япанчынцава** (1977 г.н.) – ваеннаслужачая ў в/ч 30695. Гэтыя тры спартсменкі выступалі амаль ва ўсе гады. А вось у **Людмілы Лысенкі** (1970 г.н.) быў пропуск, звязаны з нараджэннем дзіцяці. У яе, дарэчы, трое малышоў. Па двое дзетак падрастаюць у **Інгі Малашкевіч, Алы Садоўскай і Іны Балабан.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Больш спорту на БТ

**МІНСК. Першы нацыянальны канал плануе пашырыць дыяпазон спартыўных трансляцый.**

Як паведаміў 21 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску дырэктар дырэкцыі спартыўнага вяшчання Белтэлерадыёкампаніі Барыс Герстэн, у будучым сезоне прадоўжыцца трансляцыя гульняў еўрапейскіх футбольных кубкаў. «Канал атрымаў эксклюзіўнае права на трансляцыю матчаў Лігі чэмпіёнаў на працягу трох сезонаў на тэрыторыі Беларусі», — патлумачыў ён. Будзе прадоўжаны таксама паказ фінальнай стадыі Кубка Стэнлі, чэмпіянату Італіі па футболе. Паводле слоў Б.Герстэна, самыя буйныя спартыўныя падзеі 2004 года знойдуць адлюстраванне на БТ і канале «Лад».

Паводле слоў намесніка дырэктара дырэкцыі спартыўнага вяшчання Белтэлерадыёкампаніі Аляксандра Казюкевіча, ужо ў лютым плануецца прадставіць насычаную спартыўную праграму на абодвух каналах. Паводле яго слоў, з 6 па 8 лютага ў Мінску пройдзе Кубак па хакею «Еўрапейскі выклік» з удзелам чатырох нацыянальных зборных — Беларусі, Польшчы, Славеніі і Венгрыі, усе матчы якога будуць трансліравацца на канале «Лад». У гэтыя ж дні стартуе чэмпіянат свету па біятлоне, усе гонкі якога будуць паказаны ў прамым эфіры Першага нацыянальнага тэлеканала. Адразу пасля заканчэння гэтага спаборніцтва адбудзецца паказ чэмпіянату Еўропы па біятлоне, які пройдзе ў Раўбічах. Яго трансляцыю Першы нацыянальны канал будзе весці таксама за мяжу.

На красавік запланавана трансляцыя чэмпіянату свету па хакею з шайбай сярод юніёраў, які пройдзе ў Мінску. Гледачоў Першага нацыянальнага канала і тэлеканала «Лад» чакае трансляцыя фінальнай часткі чэмпіянату Еўропы па футболе сярод маладзёжных каманд з удзелам зборнай Беларусі.

А.Казюкевіч паведаміў, што дырэкцыя спартыўнага вяшчання падрыхтавала тэлегледачам «вялікі сюрпрыз»: «Магчыма, ужо 15 лютага на Першым нацыянальным тэлеканале пачнецца трансляцыя матчаў наймацнейшай у свеце амерыканскай Нацыянальнай баскетбольнай лігі — NBA». Вядуцца таксама перамовы аб паказе чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы для закрытых памяшканняў з Будапешта.

Што тычыцца летніх Алімпійскіх гульняў 2004 года ў Афінах, то, паводле слоў Б.Герстэна, «чакаецца цяжкая праца, з якой мы сутыкаемся ўпершыню: беларускае тэлебачанне будзе ў поўным аб'ёме асвятляць спаборніцтвы, у дзень запланаваныя 3—4 трансляцыі». Паводле слоў Б.Герстэна, тэлегледачы змогуць убачыць большасць спаборніцтваў з удзелам беларускіх спартсменаў

**Паводле БелаПАН.**

## Табло

■ АФІЦЫЙНА

У пастанове Міністэрства спорту і турызму па выніках работы па развіцці фізічнай культуры, спорту і турызму ў Беларусі у 2003 годзе і задачах на 2004 год адзначаецца шэраг кіраўнікоў як найбольш актыўных. Сярод загадчыкаў мясцовых аддзелаў ФКСіТ называюцца **Мікалай Фастаў** са Смаргоні і **Мікалай Шрымф** з Маладзечна, а сярод дырэктараў спартшкол – **Віктар Мазнёў** з прафсаюзнай у Маладзечне.

■ ЛЫЖНЫЯ ГОНКІ

Выхаванка Мядзельскай ДЮСШ **Вольга Васілёнак**, якая цяпер жыве ў Віцебску, была ўключана ў склад зборнай краіны для ўдзелу ў этапе Кубка свету, што праходзіў у эстонскім мястэчку Отэпя. Яна выступіла ў эстафетнай гонцы 4 па 5 км, прычым была ў нашым складзе адзінай карэннай беларускай. Сярод дзесяці калектываў прадстаўніцы Беларусі занялі восьмае месца.

■ БАСКЕТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйны калядны турнір сярод хлопцаў 1988 г.н.**

1.ДЮСШ№1-I (Маладзечна). 2.СДЮШАР (Смаргонь). 3.ДЮСШ (Полацк). 4.ДЮСШ№1-II (Маладзечна).

За гаспадароў, выхаванцаў Анатоля Яфімава, найлепш выступілі Таір Алахвердыеў (гімназія №6) і Аляксандр Фядосаў (гімназія №10). У складзе смаргонцаў, падапечных Сяргея Дурэйкі, прывабна глядзеўся Юрый Закрэўскі (гімназія №4): гэты дзесяцікласнік ужо "вымахаў" на 208 см.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Кінабудку – пад гульнявую залу

**ВАЛОЖЫН. Памяшканне кінабудкі пуставала ў ПТВ-208 не адзін год.**

Зараз настаўніца фізвыхавання **Зоя Гусакоўская** разам з актывістамі-спартсменамі адкрыла ў ім гульнявую залу. Тут устаноўлены 2 тэнісныя сталы, маюцца настольныя гульні, камплект шашак, шахмат. А каб гульнявы пакой выглядаў вясёлей, сцены ў ім размалявала трэцякурсніца **Алена Шыбут**.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ АНОНС

**23-25 студзеня. Маладзечна. Зала ЗМК.**

Занальны турнір Кубка Мінскай вобласці па міні-футболу. Удзельнічаюць каманды Маладзечна, Валожынскага, Вілейскага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Лагойскага раёнаў, Заслаўя.

Пачатак у пятніцу з 14-30, у суботу і нядзелю – з 10-00.

**25 студзеня. Мядзел. Лыжныя гонкі кіруючых кадраў Мядзельшчыны. Пачатак аб 11–й гадзіне.**

**25 студзеня. Ілава, Мядзельскі р–н.**



Адкрыты рэгіянальны турнір у падкіднога дурня. Пачатак а 9–й гадзіне.

# ВІНШАВАНКІ

С юбилеем!
**Сергей Иванович Лобанов**!
Дорогой наш,
От души мы тебя поздравляем.
В твой юбилей хотим пожелать:
В жизни жить легко и играя,
Невзгод, неудач – их не знать!
За платформу бизнеса крепко
Уцепиться и твёрдо стоять.
А удача женского рода,
Она сумеет всегда поддержать!
*С любовью и уважением жена, дети, зять и внучка Марта.*

**Сяргею Лабанаву** з Маладзечна! Дружа! Віншуем цябе з юбілеем і ўздымаем поўныя келіхі за цябе і тваю сям'ю. *Манцэвіч, Зянько.*

З юбілеем!
**Зоя Яўгенаўна Капленка**!
Дарагая наша, сардэчна віншуем! Няхай заўсёды лёс дорыць табе здароўе, шчасце і ўдачу.



Мы на праздник придём к тебе,
Чтоб тебя от души поздравить.
И сердца свои принесём,
Чтобы в доме твоём оставить.
Мы в объятья тебя сожмём
И губами сотрём слезинки.
И внучат твоих приведём,
Пусть погладят твои сединки.
За всё, что ты нам дала,
Что под сердцем нас носила,
Пожелаем, чтоб ты жила
Долго, радостно и счастливо.
Пусть минует тебя беда,
Пусть уйдут навсегда печали,
Чтоб ты радостно нас всегда
На пороге своём встречала.
А морщинки у добрых глаз
Пусть разгладит январский вечер,
Ведь дороже, чем ты, у нас
Никого нет на белом свете.
*З любоўю і павагай муж, дачка, сын, зяць, нявестка, унукі.*

**Алену Анатольеўну Трацяк** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у працы і сямейнага дабрабыту. *Сям'я Андрашчук.*

**Наталлю Уладзіміраўну Бялкову** і **Мікалая Бялкова** віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, цудоўнага настрою. *Сям'я Бялковых.*

Сябра **Аляксандра Пятровіча Харэўку**! Сардэчна віншуем з 50-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, поспеху, сямейнага дабрабыту. *Ціхановічы.*

**Вольгу Аляксееўну Шыла** віншуем з радасным святам – днём нараджэння! Вялікага табе шчасця, моцнага здароўя і рамантычнага кахання. *Таццяна і Зінаіда.*

Поздравляем с юбилеем!!!
**Игоря Брониславовича Третяка**!
Для нас большая радость видеть твои сияющие глаза, жизненную энергию и добрую улыбку. Спасибо за то, что ты есть!



Храни тебя Бог от житейских невзгод,
От тяжких болезней, душевных тревог.
Пусть будет побольше безоблачных дней,
Согретых любовью родных и друзей.
*С любовью, семья Третяков.*

З 35-годдзем!
**Васілю Фёдаравічу Дудко** з Маладзечна.
Ад шчырага сэрца віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, аптымізму, сямейнага дабрабыту, стойкасці ва ўсіх жыццёвых няўзгодах.
*Сем'і Якубовічаў.*

З паўналеццем!
**Здварду Карповічу** з Маладзечна!
Жадаем здароўя, радасці, душэўнай цеплыні, спаўнення мар і надзей. Няхай па жыцці акружаюць верныя сябры, а на твары ззяе шчаслівая усмешка.
*Мама, тата, брат.*

**Сяргея Грышкевіча** з Вілейкі віншую з днём нараджэння! Жадаю поспехаў у вучобе, шчасця, здароўя, сапраўднага кахання. *Варвара.*

**Зою Сяргееўну Басацкую**, дарагую матулю, віншую з 45-годдзем! Жадаю здароўя, шчасця і поспехаў у жыцці. *Сын Леанід.*

**Івана Васільевіча Дуброўскага** віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, моцнага кахання, шчасця, дабрабыту. *Равенкі.*

**Вольгу Савіч**, самую прыгожую і пяшчотную дзяўчыну на свеце, віншую з хуткім заканчэннем працоўнага тыдня. *З каханнем, Руслан.*

**Алесю Іванаўну Грыгаровіч** віншую з будучым вяселлем. Жадаю ўсяго самага найлепшага. Кахання і шчасця. *Ад сяброўкі Наташы.*

**Танюшу Андрашчук** віншую з днём Анёла. Расці здаровенькай і паслухмянай дзяўчынкай. *Тата.*

**Танечку Андрашчук** віншую з днём Анёла. Сонейка, ты лепшае, што ў мяне ёсць на свеце. *Мама.*

**Таццяну Касцевіч** віншую з днём Анёла. Жадаю, каб твой анёл заўжды цябе берагаў. *Кума Света.*

**Андрэя Лявошку** з Вілейкі віншую з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, кахання, поспехаў, дабрабыту. *Варвара.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**23-25 студзеня. "Дачка майго Боса"**, ЗША, камедыя, акрамя асоб да 16 гадоў, – у 17.00, 19.00 і 21.00. **24 студзеня** сеансы будуць у 11.00, 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00. **25 студзеня** – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

**26-28 студзеня**. Прэм'ера. **"Дзеці шпіёнаў-3"**, ЗША – у 12.30, 15.00 і 17.00. **27 і 28 студзеня** – у 10.00, 12.30, 15.00 і 17.00.

**26 студзеня – 1 лютага**. Прэм'ера. **"Антыкілер-2: антытэрор"**, ЗША, 2 серыі. Сеансы: **26-28 студзеня** – у 21.30. 29 студзеня – 1 лютага – у 18.30 і 21.00.

**Для дзяцей**

**24 і 25 студзеня. "Ліс і паляўнічы сабака"** – у 13.00.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

## Купон 4

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

■ ВІКТАРЫНА

# Мая Беларусь-2. Вынікі

**Прывітанне, паважаныя эрудыты! Вось і надышоў час падводзіць вынікі віктарыны "Мая Беларусь-2". Але спачатку — пра вынікі трэцяга і дадатковага тураў.**

Некаторыя чытачы, скарыстаўшы магчымасць, паўдзельнічалі ў абодвух гэтых турах, але ўсе яны (за выключэннем маладзечанца Ягора Бегуна) найбольшага поспеху дасягнулі ў трэцім туры. Таму, згодна з нашай умовай, ім будуць залічаныя ачкі, набраныя менавіта ў гэтым туры. Нагадаю, што дакладныя адказы на адзначаныя пытанні ацэньваліся чатырма баламі. Правільныя адказы на ўсе пытанні трэцяга тура нам даслалі **Станіслаў Ярашэвіч** з вёскі Варняны Астравецкага раёна, **Марыя Васілеўская, Дзмітрый Пакладок і Анатоль Шпілеўскі** з Маладзечна. Усе яны атрымалі па 24 балы. Па 20 ачкоў на свой рахунак запісалі **Валянціна Усціновіч** з вёскі Асіпавічы Вілейскага раёна і **Людміла Мельнічэнка** з Маладзечна. Дарэчы, лепшым пытаннем трэцяга тура прызнана пытанне №4 – пра белавежскіх зуброў, а дадатковага тура — №5, пра мотальскія і неглюбскія ручнікі.

Такім чынам, па суме трох тураў віктарыны лепшы вынік, набраўшы 40 балаў, паказалі **Станіслаў Ярашэвіч** і **Дзмірый Пакладок**. Кожны з іх мае адзін дадатковы бал. Таму шчаслівчыка прыйшлося вызначыць з дапамогай жэрабя, які быў схільны да **Станіслава Ярашэвіча**. Яму і будзе ўручаны галоўны прыз – фотаальбом Сяргея Плыткевіча "Беларуская экзотыка" з аўтографам аўтара. (Калі ласка, Станіслаў Станіслававіч, звяжыцеся з намі па адным з рэдакцыйных тэлефонаў).

А Дзмітрый Пакладок атрымае камплект паштовак "Мінск". За актыўны ўдзел таксама будуць адзначаныя друкаванымі сувенірамі Марыя Васілеўская і Анатоль Шпілеўскі з Маладзечна, якія набралі па 39 балаў, Валянціна Усціновіч з вёскі Асіпавічы Вілейскага раёна і Людміла Мельнічэнка з Маладзечна (па 36 балаў).

Віншуем усіх пераможцаў! Астатніх удзельнікаў просім не засмучацца, бо ў кожнага з вас будзе магчымасць перамагчы ў наступных нашых конкурсах. Дзякуй усім, хто даслаў Навагоднія віншаванні ў мой адрас.



Конкурс вядзе **Мікола ЛІПСКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Прыз – відэакасета

**Прывітанне, шаноўныя сябры! Сёння мы падводзім вынікі нашага першага "Загадкавага слова" і прапануем новую "задачу".**

Вельмі прыемна, што ў гэтым конкурсе прыняло ўдзел так шмат чытачоў і амаль усе яны цудоўна справіліся з прапанаваным заданнем. Гэта маладзечанцы **Ірына Шастоўская, Віталь Шпілеўскі, Павел Шэлег, Ігар Сільвановіч, Вольга Палівода, Анатоль Шпілеўскі, Мікалай Когель, Арцём Якубовіч, Дзмітрый Пакладок, Інэса Забароўская, Віктар Таразевіч, Ларыса Сергіевіч, Дзяніс Каралькевіч, Ягор Бягун, Тамара Камінская, Яфім Гольдберг**, віляйчане **Алена Лемяшонак, Анастасія Крачкоўская, Аляксандр Вярбіцкі, Анатоль Капцюг, Галіна Бурак**, а таксама **Г. Аўдзеенка** з г.п.Чысць. Але пашанцавала **Алене Лемяшонак** з Вілейкі. Менавіта яна атрымае відэакасету.

А цяпер – новае заданне, адказы на якое чакаем на працягу 10 дзён.

Загадкавыя словы

Правілы гульні наступныя. Па-першае, вы павінны адказаць на прапануемыя пытанні, да кожнага з якіх даюцца тры варыянты адказаў, адзін з іх – правільны. Па-другое, з кожнага слова-адказу трэба ўзяць першую літару і скласці з іх загадкавыя словы. Сёння гэта імя (пытанні пад №№1-6) і прозвішча (№№7-12) вядомага беларускага кінарэжысёра.

1. Што з пералічанага з'яўляецца легкавым аўтамабілем? (Дыліжанс. Брычка. Лімузін.)

2. Хто з гэтых спецыялістаў займаецца складаннем гараскопаў? ( Біёлаг. Астролаг. Гінеколаг.)

3. Як называецца пляцоўка для правядзення конных скачак і спаборніцтваў? (Рынг. Арэна. Іпадром.)

4. Якая з гэтых краін з'яўляецца гістарычнай радзімай цыган? (Індыя. Венгрыя. Румынія.)

5. Які з гэтых хімічных элементаў адносіцца да неметалаў? ( Барый. Ртуць. Хлор.)

6. У якім з гэтых італьянскіх гарадоў знаходзіцца славуты тэатр "Ла Скала"? (Рым. Мілан. Венецыя.)

7. Як называюць хлебнага жука? (Моська. Кузька. Грызька.)

8. Хто з'яўляецца аўтарам вядомага афарызма "Жыццё – гэта тэатр, і ўсе мы ў ім – акцёры"? (Шэкспір. Дантэ. Чэхаў.)

9. Якая з гэтых рыб адносіцца да роду праснаводных? (Уюн. Мойва. Скумбрыя.)

10. Які каштоўны камень змяняе свой колер пры ўключэнні электрычнага асвятлення? (Тапаз. Сапфір. Александрыт.)

11. На якую гару, згодна з уяўленнем старажытных грэкаў, трэба было ўзысці, каб стаць паэтам? (Алімп. Манблан. Парнас.)

12. У якім з гэтых відаў спорту праводзяцца спаборніцтвы на Кубак Дэвіса? (Футбол. Тэніс. Хакей.)

**Мікола ЛІПСКІ.**

■ ПАСЛУГІ

# Адкрылі выцвярэзнік

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу аднавіў работу медыцынскі выцвярэзнік Маладзечанскага ГРАУС. Ён не працаваў з 22 красавіка 2002 года.**

Па афіцыйных дадзеных, на ўчарашнюю раніцу праз выцвярэзнік прайшло больш за 30 чалавек. У дзень адкрыцця іх было 9. Знаходзіцца там дазволена не менш за 3 гадзіны і не больш за суткі. Паслуга гэта платная. Калі чалавек не заплаціць, то грошы будуць спаганяцца праз суд. Кошт на яе ў чацвер раніцай яшчэ не вырашылі. Па словах начальніка медвыцвярэзніка **Аляксандра Арсяновіча**, з дня на дзень гэта павінны зрабіць мясцовыя ўлады. Дарэчы, раней ён аддаў гэтай установе 15 год працы. Два гады да закрыцця кіраваў ёй.

З дапамогай мясцовых уладаў, кіраўнікоў ГРАУС і гарадскіх прадпрыемстваў адбудавалі былы будынак выцвярэзніка. Замянілі вокны і дзверы. Вырашэнне некаторых праблем адклалі да вясны. Напрыклад, рамонт даху і вонкавай часткі будынку. Кіруе будаўнічымі работамі намеснік старшыні гарвыканкама па будаўніцтве **Мікалай Воранаў**.

Для маладзечанцаў яшчэ не вельмі звыкла, што аднавіўся медвыцвярэзнік. І нават, калі я патэлефанавала ў даведку па 09, патрэбны нумар шукалі доўга. Жанчыны раіліся паміж сабой, на якую літару глядзець.

**Ірына РАБУШКА.**

P.S У "РГ" у № 2 ад 9 студзеня мы абяцалі ўручыць спецыяльны прыз першаму "кліенту" медвыцвярэзніка. Ад сваіх слоў не адмаўляемся. Прыходзьце за ім у рэдакцыю.



# ЗНАЁМСТВЫ

Адзінокі мужчына, 49/170/70, пазнаёміцца з адзінокай, прыемнай жанчынай без шкодных звычак, ўзрост да 50 гадоў, з жыллём. 222310, Маладзечна-6, п/п КН 0476572.

Адгукніся хутчэй, мой адзіны! Я прыемная, добрая гаспадыня, в/а, без шк./зв., 56/160/70, згодная на пераезд. 222310, Маладзечна-1, п/п МС 0654508.

Мужчына, 44/170, пазнаёміцца з жанчынай, пажадана з сельскай мясцовасці, згоднай на пераезд. 222417, Вілейка-4, п/п МС 1094234.

Сімпатычная, прыстойная жанчына, 29/166/62, пазнаёміцца з мужчынам з пачуццём гумару для сур'ёзных адносін. 231000, Смаргонь, а/с 21.

Мужчына, 39/176/77, пазнаёміцца з жанчынай без дзяцей (30-38 гадоў) для сумеснага жыцця. Жыву ў пасёлку Мінскай вобласці. 220079, Мінск, а/с 183.

Я – інвалід 2 групы, жадаю пазнаёміцца з дзяўчынай для сямейнага жыцця. Падрабязнасці ў пісьме. 222310, Маладзечна, вул. Міру, 6-52.

■ ІМЯНІНЫ

**23 студзеня. Праваслаўныя**: Макара, Паўла, Рыгора, Феафана. **Каталіцкія**: Марыі, Ідальфонса, Раймунда.
**24 студзеня. Праваслаўныя**: Сцепаніды, Фядоссі, Міхаіла. **Каталіцкія**: Фяліцыі, Францішка.
**25 студзеня. Праваслаўныя**: Таццяны, Пятра, Савы. **Каталіцкія**: Мілаша, Паўла.
**26 студзеня. Праваслаўныя**: Елізара, Пятра. **Каталіцкія**: Паўліны, Палікарпа, Цімафея.
**27 студзеня. Праваслаўныя**: Ніны, Адама, Аўсея, Веньяміна. **Каталіцкія**: Анелі, Пшыбыслава, Пшэмыслава, Яна.
**28 студзеня. Праваслаўныя**: Івана, Паўла, Прохара. **Каталіцкія**: Валерыя, Тамаша.
**29 студзеня. Праваслаўныя**: Гаўрылы, Максіма, Пятра. **Каталіцкія**: Валяр'яна, Здзіслава, Францішка.

